



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

12+

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

10 лістапада 2017 года №45 (1176)


# У вёсцы Пажарышча за зіму можна адзічэць

## Рэпартаж з вёскі ў Валожынскім раёне, у якой засталося 20 жыхароў

старонка 20-21

Фота Наталлі ТУР.



## Гарадзішча жалезнага веку знішчаюць на Вілейшчыне

"З ДБУ-13 робяць крайніх"

старонка 2

## Змяненні руху цягнікоў

старонка 5

## Ці будзе ў Маладзечне адзіны футбольны клуб у першай лізе?

старонка 22

# Гарадзішча жалезнага веку знішчаюць на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

**Каля вёскі Арпа Крывасельскага сельсавета будаўнічая арганізацыя распрацоўвае кар'ер. Аказалася, што ў гэтым месцы знаходзіцца мясцовы археалагічны помнік, падобных якому ў раёне налічваецца дзясятак.**



Від на гарадзішча з боку кар'ера, бачны падкоп пад пляцоўку гарадзішча. Абарончы вал знесены.

Частку культурнага слоя паспелі парушыць, але краязнаўцы падаспелі своечасова. Яшчэ тыдзень – і беларусы пазбавіліся б аб'екта культурнай спадчыны, самі таго не ведаючы.

### “З ДБУ робяць крайніх”

Дарожна-будаўнічае ўпраўленне №13 здабывае ў кар'еры каля Арпы пясок. Ім выдзелілі гэты ўчастак, і яны пачалі яго распрацоўваць. Мясцовыя паведамілі, што там можа ўтрымлівацца нешта каштоўнае, **Максіму Чарняўскаму**, старшаму навуковаму супрацоўніку аддзела археалогіі першабытнага грамадства Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук.

З баз па помніках ён убачыў, што прыкладна там месціцца гарадзішча. Пасля прыехаў і спраўдзіў, што кар'ер капаюць якраз на яго месцы.

– Ва ўсёй сітуацыі мне больш за ўсё шкада ДБУ, таму што не яно павінна адсочваць помнікі на сваіх участках. Мне паказвалі дакументы дазволу на работы. Ці да чыноўнікаў, адказных за культуру, не звярнуліся, ці яны прафілонілі сваю працу.

Археолаг зафіксаваў, што на частцы круглага гарадзішча бульдозерам цалкам зняты культурны слой. Некранутай засталася літарка “С” па перыметры.

Пасля Інстытут гісторыі напісаў прадпісанне на райвыканкам аб спыненні работ. І аб тым, што ёсць два варыянты вырашэння праблемы. Першы – змена праектнага плана, умацаванне схілаў гарадзішча, кансервацыя і выратавальныя раскопкі пашкоджаных частак. Другі варыянт – дакапаць кар'ер, далей выкарыстоўваючы у гаспадарчым плане. Гарадзішча размешчанае на вяршыні пагорка з асноўным запасам пяску.

З інтэрв'ю начальніка аддзела культуры, ідэалагічнай работы і па справах моладзі **Сяргея Паўлоўскага** парталу “Спадарожнік” вынікае, што ён падтрымлівае пазіцыю Акадэміі навук, што ДБУ павінна выбраць адзін з прапанаваных варыянтаў і знайсці на гэта грошы.

– З-за гэтага мне вельмі няўтульна: гэта не віна ДБУ, але яны сталі ў сітуацыі крайнімі, – кажа Максім Чарняўскі. – У той час, як нікому з чыноўнікаў усіх узроўняў не будзе хоць нейкае пакаранне, а віна іх. І адказнасць павінна быць на іх, хаця перакідваецца на ДБУ. Гэта зусім немалыя грошы, цяпер плошча тэрыторыі каля 1000 квадратных метраў ацалелага слоя. І днямі праязджаў тое месца, бачыў, што яны спынілі работы, а значыць, трымаюць нашы дамовы.

Гэта гарадзішча вядомае з 19 стагоддзя, яно ёсць у спісе помнікаў гісторыі і культуры Вілейкі і Вілейскага раёна, дадатку да рашэння райвыканкама №1729 ад 2013 года. Гэта ўмацаванае паселішча-сховішча жалезнага веку. У тым жа спісе на тэрыторыі Вілейскага раёна іх 10.

– З пункту гледжання гісторыі і археалогіі – гэта вельмі каштоўныя крыніцы па даследаванні, – мяркуе навукоўца. – На гэтай пляцоўцы была зона па выплаўцы жалеза. Сказаць больш можна пасля даследавання. Прыбалты такія помнікі ўключаюць у турыстычныя маршруты, ладзяць там мерапрыемствы. Там месца вельмі маляўнічае, і магло б быць менавіта такім турыстычным аб'ектам.

> **У пачатку мінулага тыдня павінны былі зносіць частку кар'ера, дзе гарадзішча. Прыехаў бы праз тыдзень – праблемы ўжо не было б.**

Акадэмія будзе чакаць рэакцыі ДБУ і райвыканкама.

### ДБУ: грошы на раскопкі для нас непад'ёмныя

Начальнік вілейскай ДБУ-13 **Сяргей Сопрых** на пытанне, да чаго схіляецца арганізацыя – кансервацыі ці капаць на знос, – адказвае:

– Калі мы даведаліся пра гэту сітуацыю, вядома, ні пра які знос не можа ісці гаворка. Але хочацца, каб увайшлі і ў становішча ўпраўлення. Кар'ер быў адведзены з усімі ўзгадненнямі, аканамічна мы на яго разлічвалі. Пад гарадзішчам знаходзіцца 2/3, а то і 3/4 ад усяго аб'ёму выпрацоўкі. Было б ідэальным варыянтам, калі б праектныя і культурныя арганізацыі разам з намі правялі б там работы па пошуку археалагічнага матэрыялу. Мы б дапамаглі з арганізацыяй бытавых умоў, у самых работах. А проста кансерваванне прывядзе да таго, што ДБУ застанецца без свайго кар'ера. Гэта бяда. Пакуль мы закрылі там усе работы. Паводле ліста райвыканкама, ёсць рэкамендацыя па ўмацаванні сцен, гэта мы зробім за тыдзень-паўтара. А юрыдычная служба нашага трэста прапрацоўвае, як зрабіць так, каб наша з вамі культурная спадчына не пацярпела.

Ці зможа арганізацыя фінансаваць археалагічныя работы, як гэтага патрабуе закон, кіраўнік арганізацыі кажа:

– Сума для арганізацыі непад'ёмная. Але тут паўстае іншае пытанне. На адкрыццё кар'ера была выдаткавана каласальная сума, і хто яе будзе кампенсаваць? Да 10 лістапада я разлічваю атрымаць юрыдычную кансультацыю трэста, і будзем прапрацоўваць, што рабіць далей. Адкрываць новы кар'ер? А хто кампенсуе затраты па адкрыцці цяперашняга?

Адказу на пытанне, хто даў дазвол на гэтыя раскопкі, пакуль няма:

– Цяпер я не магу адказаць, таму што на пасадзе з два месяцы, і ўвесь пакет дакументаў яшчэ не падымаў.

### Райвыканкам: вінаватая заканадаўчая загваздка

На пытанне, якое выйсце лічыць аптымальным, начальнік аддзела культуры, ідэалагічнай работы і па справах моладзі Сяргей Паўлоўскі адказвае – правядзенне раскопак. Па заканадаўстве забяспечыць іх фінансаванне павінны заказчык, якім тут выступае ДБУ-13.

**– Ці змогуць яны асіліць такія выдаткі?**

– Я не ведаю ні аб'ёмы, ні сумы. Цяпер чакаю адказу ад кіраўніцтва ДБУ, каб яны выказалі сваю думку. Нічога новага дадаць не магу.

Сяргей Фёдаравіч кажа, што такая сітуацыя магла адбыцца праз недасканаласць заканадаўства, якім кіраваліся на момант падпісання дазволу на работы. “Гэта заканадаўчая загваздка. Цяпер усё ясна па Кодэксе аб культуры. Пры распрацоўцы дакументацыі на земляныя работы трэба звярнуцца ў Акадэмію навук, а пасля ўзгаднення – да мясцовых органаў. Цяпер заканадаўства распрацаванае лепш”.

### Акадэмія: гэта невялікія грошы ў параўнанні з важнасцю

Паводле Кодэкса аб культуры, які ўступіў у законную сілу ў пачатку года, заказчык земляных работ не можа атрымаць дазвол на работу без заключэння Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук аб наяўнасці ці адсутнасці на месцы помнікаў археалогіі. Таксама мусіць фінансаваць неабходныя мерапрыемствы па ахове археалагічнай спадчыны. І не толькі вядомых археалагічных аб'ектаў, але і работы па выяўленні яшчэ не ўлічаных помнікаў у межах зоны новабудоўлі. Патрэбная для гэтага сума разлічваецца са Зборніка норм затрат працоўных рэсурсаў. Яна залежыць ад многіх фактараў: шэрагу патрэбных мерапрыемстваў, умоў, аб'ёму і іншага.

Ацаніць, у колькі могуць абысціся раскопкі каля Арпы, мы папрасілі намесніка дырэктара па навуковай рабоце Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук **Вадзіма Лакізу**:

– Дакладныя сумы пралічвае бухгалтар. Напрыклад, перада мной ляжаць дакументы па ўчастку ў Ашмянскім раёне. Навуковыя раскопкі 30 квадратных метраў культурнага пласта там ацанілі ў 1 603 рублі. Гэта не такія вялікія грошы ў параўнанні з важнасцю аб'екта. А ў сітуацыі на Вілейшчыне была дапушчаная памылка ад моманту выдзялення ўчастку пад работы.

На заўвагу, што дазвол быў падпісаны да ўступлення ў законную сілу Кодэкса аб культуры, Вадзім Лакіза адказаў:

– На момант праектавання дзейнічаў шэраг іншых заканадаўчых норм – пастанова Савета Міністраў №651, Закон Рэспублікі Беларусь “Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь”, шэраг адміністрацыйных працэдур, якімі павінны былі кіравацца адказныя за дазвол на кар'ер асобы. І згодна з імі, павінны былі правесці папярэдняе даследаванне ўчастка. Алгарытм дзеянняў быў прапісаны – землебудаўнічыя работы можна праводзіць толькі пасля прыняцця мер па ахове археалагічнай спадчыны

Адказу на пытанне, хто дазволіў распрацоўваць кар'ер на месцы археалагічнага помніка, мы пакуль не атрымалі. “РГ” будзе сачыць за развіццём сітуацыі.


Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by



Каб закінуць бульбу ў вядро, удзельнікам давалі тры спробы.



Галоўнай стравай свята былі дранікі.

# 15 кілаграмаў бульбы і журы пад парасонамі

## У Вілейцы правялі "Дранік-батл-шоу"

ВІЛЕЙКА

**Дажджлівае лістападаўскае надвор'е не стала перашкодай для навучэнцаў і педагогаў вілейскага каледжа. Яны правялі традыцыйнае "Дранік-батл-шоу".**

Па словах арганізатараў, гэта кулінарнае шоу ў каледжы ладзяць ужо шмат гадоў у гонар новага ўраджаю бульбы. Яно стала своеасаблівай "фішкай" установы.

Сёлетняе мерапрыемства пачалося са спартыўных спаборніцтваў "Бульба-спрынт". На гарадскім стадыёне ў хуткасці спаборнічалі каманды "Бульбашы", "Дзеруны" і "Дранікі".

Акрамя навучэнцаў каледжа, будучых швачак і повараў, у кожнай камандзе гулялі па адным вучні з вілейскай школы №3. Падчас спартыўных конкурсаў удзельнікі збіралі і рассыпалі бульбу, правяралі сябе ў меткасці, шпурляючы бульбіну ў вядро.

А ў гэты час настрой ўздымалі мокрыя чырлідары – навучэнкі каледжа.

Пасля спаборніцтваў, дзе перамаглі "Бульбашы", усе рушылі на інтэрактыўную пляцоўку. Тут ахвотныя маглі паўдзельнічаць у конкурсах, паглядзець на рыцарскія баі і, вядома, пакаштаваць дранікі. Іх будучыя повары гатавалі проста на вачах у гледачоў, пад дажджом. А кіравала працэсам майстар вытворчага навучання **Ала Дарошка**.

– На прыгатаванне дранікаў пайшло 15 кілаграмаў бульбы, – распавяла майстар. – Дранікі самыя звычайныя, без соусу і начынак. Аднак маюць асаблівы смак, бо прыгатаваныя на мангале.

Трэцяя пляцоўка нарэшце схавала пад дах ужо істотна змоклых гледачоў і ўдзельнікаў. Яна размясцілася ў будынку каледжа. Тут у сталовай ладзілі заключныя выпрабаванні для ўдзельнікаў конкурсу.

У сталовай на хуткасць чысцілі бульбу, гатавалі і елі дранікі.

Дзяўчаты, якія вучацца па спецыяльнасці "швачка-цырульнік" сёлета ўпершыню побач з будучымі поварамі прымалі ўдзел у бульбяным шоу. Яны стваралі "бульбяныя вобразы". Рабілі мадэлям тэматычныя прычоскі і сукенкі з мяхоў для бульбы.

Сярод членаў журы былі прадстаўнікі РАУС, Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, культуры, райвыканкама. Узначальваў журы дырэктар каледжа **Ігар Кіцікаў**

Пасля ўсіх конкурсаў журы аб'явіла, што лепшай стала каманда "Дзеруны".

Падчас перапынкаў ладзілі конкурсы для гледачоў, выступалі ўдзельнікі цыркавой студыі каледжа і спевакі з ліку навучэнцаў.

Пасля мерапрыемства гледачам раздалі фірменныя магніцікі каледжа і буклеты пра здаровы лад жыцця, якія падрыхтавалі супрацоўнікі Вілейскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.

Арганізатары аб'явілі конкурс на лепшы фотаздымак свята ў сацсетках. Пераможцу абяцалі спецыяльны прыз.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

**Бульбу выкапалі, агуркі закаталі, капусту заквасілі.**
**Значыць, варта падпісацца на "Рэгіянальную газету",**
**бо з'явілася больш часу, каб яе чытаць.**



*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:*
*63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*

**Падпісацца можна:**

✓ праз сайт "Белпошты".

Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі", выбіраем "Алфавітны". Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

ЦісНем літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – "Рэгіянальная газета".

✓ на пошце,

✓ праз паштальёна

✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі, на тры месяцы – 9 рублёў.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 9 рублёў, на тры месяцы – 27 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

Цана са скідкай на месяц для індывідуальных падпісчыкаў роўная **2,40** рубля, для ведамасных – **8,29**.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 2.11 | 9.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9760 | **1,9908** |
| Еўра | 2,2988 | **2,3082** |
| Злоты, 10 | 5,4319 | **5,4453** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,3961 | **3,3631** |
| Грыўня, 100 | 7,3512 | **7,4765** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **1.11** | **8.11** |
| Еўра | 2.2920/2.3070 | **2.3000/2.3150** |
| Долар ЗША | 1.9700/1.9820 | **1.9800/1.9950** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 1.11 | 8.11 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,10 | **2,98** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,15 | **4,20** |
| Селядзец, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 2,80 | **2,80** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,95** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,60 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 3,35 | **3,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,25 | **0,35** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Гарбуз, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Кабачкі, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,30 | **0,37** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,90 | **1,50** |
| Морква, 1 кг | 0,55 | **0,65** |
| Памідоры, 1 кг | 2,75 | **2,89** |
| Перац, 1 кг | 2,29 | **5,30** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Часнок, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,29 | **2,15** |
| Вінаград, 1 кг | 2,99 | **2,95** |
| Гранат, 1 кг | 3,95 | **4,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,80** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,30 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **3,95** |
| Лімоны, 1 кг | 3,85 | **3,69** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,95 | **3,50** |
| Хурма, 1 кг | 2,50 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,10 | **1,89** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Мёд, 0,5 л | 7,00-8,00 | **7,00-8,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,80-3,00 | **3,00** |

НАВІНЫ

### Чысцінец бутэлькай пабіў галаву мінчаніну

МАЛАДЗЕЧНА

Ноччу з 1 на 2 лістапада на вакзале ў сталіцы пазнаёміліся двое мужчын. Адзін – 26 гадовы жыхар Чысці, другі – 47-гадовы мінчанін.

Знаёмыя ўзялі спіртное, ноч пілі, а раніцай селі ў дызель "Мінск-Гудагай". Чысцінец паехаў дадому, а мінчанін да сябра дзесьці на Маладзечаншчыне.

У цягнік мужчыны таксама ўзялі выпіць. Пасля станцыі "Аляхновічы" паміж знаёмымі ўзнік канфлікт, пасля – бойка. Жыхар Чысці стукнуў мінчаніна шкляной бутэлькай па галаве. А пасля выйшаў на станцыі "Уша" і паехаў дадому. У хуткім часе яго затрымалі.

Пра гэта распавёў старшы следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч**.

Аксана ЯРАШОНАК.

### На мінулым тыдні ДАІ штодзень лавіла п'яных за рулём

МАЛАДЗЕЧНА

За мінулы тыдзень на Маладзечаншчыне не было дня, каб ДАІ не спыніла нецвярозага кіроўцу.

Пра два такія выпадкі распавёў падрабязней інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

2 лістапада ноччу на вуліцы Машэрава затрымалі нецвярозага кіроўцу аўтамабіля "Мерсэдэс-Бэнц". Ім аказаўся 36-гадовы гараджанін. Вечарам дома ён выпіў каля 350 грамаў гарэлкі.

Пасля апоўначы тэрмінова спатрэбілася на запраўку, што на выездзе ў бок Мінска. Там ён набыў патрэбнае і накіраваўся дадому. Па дарозе мужчыну спыніла ДАІ.

Пасля праверкі інспектары высветлілі, што ў затрыманага 2,3 праміле алкаголю ў крыві.

У 2008 годзе затрыманага пазбавілі правоў, і з таго часу ён іх не аднавіў. Так што ДАІ затрымала не толькі нецвярозага за рулём, але і бяспраўніка.



### Нецвярозы аказаўся ў вышуку

Яшчэ аднаго нецвярозага з гісторыяй затрымалі днём 1 лістапада.

31-гадовы маладзечанец выпіваў з сябрамі. Раптам у яго з'явіліся справы, і адзін чалавек з кампаніі дазволіў узяць машыну "Рэно".

Ён ехаў у раёне вуліцы Ясінскага, калі яго заўважылі і паведамілі міліцыі пра п'янага за рулём.

На вуліцы Буйло мужчыну дагнала ДАІ, інспектары падалі сігнал аб спыненні. Аднак вадзіцель яго праігнараваў і паехаў далей. Ля "Водаканала" міліцыянеры яго дагналі і завезлі ў наркалогію.

У затрыманага былі тры праміле алкаголю.

Пры разбіральніцтве міліцыя высветліла, што затрыманы знаходзіцца ў вышуку – у 2013 годзе ён збег ад суда ў Маскве. Мужчыну завезлі ў райаддзел міліцыі.

Дзяржаўтаінспектар адзначыў, што п'яных кіроўцаў на дарогах Маладзечаншчыны ловяць ледзь не штодзень.

За гэты год у Мінскай вобласці адбылося 66 аварый па віне п'яных кіроўцаў. У здарэннях загінулі восем чалавек, атрымалі раненні 73.

Міліцыя просіць, калі вы ўбачылі нецвярозага кіроўцу, паведамляць па нумары **102**.

Зоя ХРУЦКАЯ.

### Прыйшла ў госці, скрала фотаапарат і тэлефон

МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ

31 кастрычніка маладзечанскія следчыя скончылі крымінальную справу жыхаркі Смаргоні.

22 гадовая дзяўчына ў верасні прыехала ў Маладзечна да сваёй цёткі. Разам яны пайшлі да цётчынага знаёмага ў адзін з дамоў на Вялікім Гасцінцы.

Падчас распівання спіртнога дзяўчына заўважыла ў суседнім пакоі мабільны тэлефон і фотаапарат. Яна незаўважна забрала сабе гэтыя рэчы.

Цётцы пасля сказала, што гэта яе ўласны тэлефон, які трэба прадаць. Тэлефон у жанчын купілі на рынку. За атрыманыя грошы яны працягнулі піць.

Па словах старшага следчага маладзечанскага РАСК Юрыя Багушэвіча, калі дзяўчыну затрымалі, яна не адразу прызналася ў крадзяжы. Аднак пры вобыску ў яе сумцы знайшлі фотаапарат. Прададзены тэлефон таксама знайшлі. Рэчы вярнулі ўладальніку.

Аксана ЯРАШОНАК.

# Былога міліцыянера АМАП асудзілі за п'янае ДТЗ

ВІЛЕЙКА

**Суд Вілейскага раёна 31 кастрычніка прысудзіў былога байца атрада міліцыі асобага прызначэння да трох гадоў пазбаўлення волі.**

Фота Misto.KH.UA

Былому міліцыянеру прысудзілі тры гады пакарання.

Абвінавачаны ў красавіку ў стане алкагольнага ап'янення на аўтамабілі "Шкода-Актавія" ўрэзаўся ў дрэва, прычыніўшы цяжкія траўмы пасажырцы, сваёй стрыечнай сястры. Дзяржаўнае абвінавачанне ў судзе падтрымліваў намеснік пракурора Вілейскага раёна **Андрэй Жукоўскі**.

– Здарэнне адбылося ў красавіку каля адной з вёсак Касцяневіцкага сельсавета, – распавёў Андрэй Жукоўскі. – 23-гадовы жыхар Мінска, міліцыянер трэцяга ўзвода атрада міліцыі асобага прызначэння ўпраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама ў стане алкагольнага ап'янення кіраваў аўтамабілем "Шкода-Актавія", які належыць яго бацькам. Побач на пярэднім пасажырскім сядзенні знаходзілася яго 26-гадовая стрыечная сястра. Вадзіцель не меў пасведчання катэгорыі "B". Было толькі пасведчанне катэгорыі "C" на кіраванне грузавікамі.

"Шкода" ўрэзалася ў прыдарожнае дрэва. Пасажырка атрымала цяжкія траўмы. Па словах Андрэя Жукоўскага, у маладой жанчыны дактары дыягнаставалі кровазліццё ў галаўны мозг. Цяпер яна вылечылася, траўма не прывяла да сур'ёзных наступстваў.

Маладога чалавека, які здзейсніў гэта ДТЗ, пасля здарэння звольнілі з радоў супрацоўнікаў органаў унутраных спраў. Суд Вілейскага раёна прысудзіў абвінавачанага да трох гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі ва ўмовах пасялення з пазбаўленнем права кіраваць транспартнымі сродкамі тэрмінам на пяць гадоў.

Прысуд пакуль не ўступіў у законную сілу. Абвінавачаны мае права абскардзіць яго ў Мінскі абласны суд.

Паводле МЛЫН.BY.

## Следчыя шукаюць жанчыну, што знікла на Мядзельшчыне

МЯДЗЕЛ

**Мядзельскі РАСК расследуе крымінальную справу па факце знікнення 60-гадовай жыхаркі Мядзела Ірыны Віктараўны Путырскай.**

Жанчына жыла па адрасе: Мядзел, вуліца Чырвонаармейская, дом 5.

2 кастрычніка каля 17:00 жанчына выйшла з вясковага магазіна ў Лук'янавічах у Мядзел і да сённяшняга часу невядома, дзе яна.

Прыкметы: на выгляд 60 гадоў, рост каля 150 сантыметраў, худая, вочы блакітныя, валасы кароткія з сівізной, голас глухі.

Памер нагі – 33.

Апранутая ў зялёную байку, карычневыя джынсы, бела-сінія красоўкі. З сабой мела мабільны тэлефон.

Мядзельскі РАСК звяртаецца да грамадзян, якім нешта вядома пра Ірыну Путырскую. Просяць паведаміць у РАСК па тэлефоне **8 (01797) 55864** або ў Мядзельскі РАУС па нумары **8 (01797) 55471**, або **102**.

Марына БАЙКО, старшы следчы аддзела, маёр юстыцыі.

## Падчас пажару на Маладзечаншчыне згарэла 18-гадовая дзяўчына

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарэнне адбылося каля 6 раніцы 7 лістапада.**

Пра пажар паведаміла старшы інспектар групы прапаганды і навучання Маладзечанскага гарраяддзела па надзвычайных сітуацыях **Марына Ганчарова**.

Ён адбыўся ў вёсцы Белева Гарадоцкага сельсавета.

Калі на месца прыехалі выратавальнікі, дом быў ахоплены агнём цалкам.

Падчас пажару ў доме была кампанія маладых людзей. Усе пяцёра спалі.

Адзін з іх тлумачыць, што па незразумелых прычынах прачнуўся і зразумеў, што дом гарыць. Разбудзіў астатніх.

Але з дому выбралася толькі чацвёра з іх.

У агні загінула 18-гадовая дзяўчына.

Прычыну пажару высвятляюць.

Аддзел інфармацыі.

Фота маладзечанскага аддзела МНС

18-гадовая дзяўчына – адзіная з кампаніі моладзі – не змагла выратавацца з пажару.

# Змяненні ў курсіраванні цягнікоў рэгіянальных шляхоў зносін

**Паважаныя пасажыры! УП "Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі" інфармуе**

У сувязі з рамонтам чыгуначнага моста
на перагоне **Вілейка-Маладзечна**
ад 09 гадз. 10 мін. **13 лістапада**
да 18 гадз. 40 мін. **15 лістапада**
ад 09 гадз. 10 мін. **27 лістапада**
да 18 гадз. 40 мін. **29 лістапада**

1. цягнікі рэгіянальных ліній эканомкласа:
адпраўленнем ад станцый Крулеўшчына, Полацк, Глыбокае
БУДУЦЬ ІСЦІ да станцыі Вілейка і назад.
Маладзечна-Вілейка-Маладзечна З АБАРАЧЭННЯ ЗДЫМАЮЦЦА.

2. расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканомкласа на перыяд рамонтных работ:

**◄ 13 і 27 лістапада**

| № цягніка | Маршрут руху | Час прыбыцця на ст. Вілейка |
|---|---|---|
| 6625 | Полацк - Вілейка | 19-05 |
| | | |
| № цягніка | Маршрут руху | Час адпраўлення ад ст. Вілейка |
| 6630/ 6631 | Вілейка - Глыбокае | 21-10 |

**◄ 14 і 28 лістапада**

| № цягніка | Маршрут руху | Час прыбыцця на ст. Вілейка |
|---|---|---|
| 6622/6621 | Глыбокае - Вілейка | 6-41 |
| 6625 | Полацк - Вілейка | 19-05 |
| | | |
| № цягніка | Маршрут руху | Час адпраўлення ад ст. Вілейка |
| 6626 | Вілейка - Полацк | 9-30 |
| 6630/6631 | Вілейка - Глыбокае | 21-10 |

**◄ 15 і 29 лістапада**

| № цягніка | Маршрут руху | Час прыбыцця на ст. Вілейка |
|---|---|---|
| 6622/6621 | Глыбокае - Вілейка | 6-41 |
| | | |
| № цягніка | Маршрут руху | Час адпраўлення ад ст. Вілейка |
| 6626 | Вілейка - Полацк | 9-30 |

3. перавозка пасажыраў паміж станцыяй Маладзечна і станцыяй Вілейка
БУДЗЕ АЖЫЦЦЯЎЛЯЦЦА аўтобусамі па чыгуначных білетах (БЕЗ ЗАЕЗДУ НА ПРЫПЫНАЧНЫЯ ПУНКТЫ: Тышкевічы, Даманоўскі, Чырвоны Беражок, Зеніт).

4. расклад руху аўтобусаў:

**◄ 13 і 27 лістапада**

| Вілейка-Маладзечна | | Маладзечна-Вілейка | |
|---|---|---|---|
| Адпраўленне ад ст.Вілейка | Прыбыццё на ст. Маладзечна | Адпраўленне ад ст. Маладзечна | Прыбыццё на ст. Вілейка |
| 19-15 | 20-00 | 20-12 | 20-57 |

**◄ 14 і 28 лістапада**

| Вілейка- Маладзечна | | Маладзечна-Вілейка | |
|---|---|---|---|
| Адпраўленне ад ст.Вілейка | Прыбыццё на ст. Маладзечна | Адпраўленне ад ст. Маладзечна | Прыбыццё на ст. Вілейка |
| 6-47 | 7-32 | 8-35 | 9-20 |
| 19-15 | 20-00 | 20-12 | 20-57 |

**◄ 15 і 29 лістапада**

| Вілейка-Маладзечна | | Маладзечна-Вілейка | |
|---|---|---|---|
| Адпраўленне ад ст.Вілейка | Прыбыццё на ст. Маладзечна | Адпраўленне ад ст. Маладзечна | Прыбыццё на ст. Вілейка |
| 6-47 | 7-32 | 8-35 | 9-20 |

У сувязі з рамонтнымі работамі на ўчастку
**Маладзечна-Полацк**
цягнікі рэгіянальных ліній эканомкласа:

**20 ЛІСТАПАДА**

**Маладзечна - Полацк - Маладзечна**
адпраўленнем ад ст. **Маладзечна** ў 08-57
адпраўленнем ад ст. **Полацк** у15-33
**АДМЯНЯЮЦЦА**

прызначаецца цягнік
**Вілейка – Маладзечна**
адпраўленнем ад ст. Вілейка ў19-06
прыбыццём на ст. **Маладзечна** ў 19-37

**Маладзечна - Глыбокае**
адпраўленнем ад ст. **Маладзечна** ў 20-12
адправіцца ў 22-50
прыбудзе на ст. **Глыбокае** ў 01-59

Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі, станцыя Маладзечна УНП 600199541

## У Валожыне будзе гарачая вада

**ВАЛОЖЫН**

У першым квартале 2018 года гарачае водазабеспячэнне паступіць у 12 панельных дамоў Валожына.

Як падлічылі ў жыллёва-камунальнай гаспадарцы, гарачая вада з цэнтральнай кацельні будзе каштаваць у пяць разоў танней, чым пры награванні ў электрычным бойлеры.

На дадзены момант праектна-каштарысная дакументацыя праходзіць экспертызу. Плануецца, што ў лістападзе ў некаторых дамах па вуліцы Міру, Партызанскай і Гагарына, дзе адсутнічаюць адасобленыя дымавыя каналы, распачнуцца будаўніча-мантажныя работы. У дамах заменяць стаякі, зробяць унутраную разводку па доме і ўстановяць лічыльнікі. А вось падводзіць трубу да крана гаспадары кватэр павінны за ўласны кошт. Для падачы гарачай вады ўлетку закупленыя катлы меншай магутнасці.

Гарачае водазабеспячэнне ў райцэнтры будзе праводзіцца ў тры этапы, яго атрымаюць не толькі жыхары шматпавярховак, але і прадпрыемствы і арганізацыі горада. На першую чаргу выдаткавана больш за 11 мільёнаў бюджэтных сродкаў. Поўнасцю праграма павінна быць завершаная да жніўня 2018 года.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Маладзечне – новы начальнік падатковай інспекцыі

**МАЛАДЗЕЧНА**

4 лістапада на планёрцы райвыканкама старшыня **Аляксандр Яхнавец** прадставіў новага начальніка раённай інспекцыі па падатках і зборах.

Ёй стала **Наталля Шубцік**.

Наталля Валер'еўна нарадзілася і жыве ў Маладзечне. Да прызначэння на пасаду начальніка інспекцыі 18 год працавала ў Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь.

**Аддзел інфармацыі.**




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- Мерсэдэс 190Е, седан, 1985 г.в., 1200 рублёў, торг. Т. (8-029) 8630498.
- Пежо-207, 2010 г.в., 1,4 бензін, 5-дзверны, 5 кпп, ідэальны стан. Цана 11 800 рублёў. Т. (8-029) 1720535.*
- **АЎТАШКЛО. ПРАДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Рызіна R17235/60 Nokian,4 штукі, зіма.Т. (8-029) 5519902.*

### КУПЛЮ

- Аўто ў любым стане. Т. (8-029) 1261119.*



- **АЎТО У ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*
- Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052. *
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

### ІНШАЕ

- Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 10 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*
- Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, новабудоўля, 2016 г., цэгла, 2-гі паверх. Т. (8-029) 6119180, (8-033) 6626858.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 1 паверх, 35 кв. м, раён Гелянова. Т. (8-044) 4529416.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 7096399, (8-029) 3343584.



- 2-узроўневы дом ў Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Мядзеле ў 2-павярховым доме на 2-м паверсе. Т. МТС (8-029) 8732688.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Гагарына, 2 паверх, з еўрарамонтам. Нацяжная столь, ламінат, шклопакеты, італьянская плітка, замененыя праводка, трубы. Побач лес, басейн, д/сад, магазіны і інш. Т. (8-029) 6958714.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, раён Зеніт. Т. (8-029) 6305419.*
- Гараж у ГБК-4 "Зеніт", насупраць прыпынку вакзала ў Вілейцы, памер 3х6 м, ёсць яма, сцяжка падлогі бетонная. Столь падшытая, дзверы уцепленыя. Ёсць тэхпашпарт. Т. (8-029) 6585886, (8-029) 5571454.
- Гараж у Вілейцы, вул. Незалежнасці. Т. (8-029) 5604815.*
- Гараж, высокія вароты ў 11 кааперативе г. Маладзечна, 6 мікрараён. Т. МТС (8-029) 7602238.
- Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*
- Дом жылы ў Маладзечне, газавае ацяпленне, 7 сотак, нядорага. Т. (8-029) 6691789.*
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

### ЗДАМ

- Здам у арэнду ізаляванае памяшканне ў будынку магазіна ў Вілейцы. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977 Т. (8-029) 5551515.*
- Здам пакой маладому спецыялісту ў Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.*



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Грузаперавозкі. Бус 1,5 тоны. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

# Дзённік мамы першакласніцы:
## а ў нас ужо ёсць электронны ключ

МАЛАДЗЕЧНА

**Цяпер у школу мы заходзім так. Кароткае развітанне ў фае. Прыкладанне карткі да электроннага табло. І "пака-пака" ўжо з іншага боку турнікета.**

Так-так, першакласнікі нарэшце атрымалі карткі для ўваходу ў школу і выхаду з яе. Правільна гэтыя жаданыя прылады называюцца электронныя ключы. І напэўна, яны не менш, а можа, і больш, чым сшыткі і падручнікі, даюць права адчуць сябе сапраўдным школьнікам.

Як абыходзіцца з карткамі, Варвару і іншых першакласнікаў навучылі настаўнікі. Адны чапляюць электронны ключ побач са звычайным на вяровачку і вешаюць на шыю. Іншыя зрабілі для карткі папяровыя чахлы, каб яна, крый божа, не падрапалася і ад гэтага не сапсавалася. Таму што першы раз карткі ўсім даюць бясплатна. А вось калі нехта згубіць, за наступную трэба будзе плаціць.

Варварына настаўніца дзяцей навучыла так. У картачцы ёсць дзірка, у якую трэба зацягнуць шнурок або тасёмку і завязаць. А іншы канец прышыць у кішэнь. Што мы і зрабілі. Праўда, са зменай надвор'я мусім перашываць картку ў іншую вопратку.

Партфель кожны дзень з сабой не носім. Забіраем толькі на выхадныя, каб навесці ў ім парадак.

Усё патрэбнае штодзень Варвара носіць у пакеце. А патрэбнае – гэта буквар, размалёўкі, адзенне ў прадлёнку і... любімая лялька Алёна.

У першым класе мабільнікі дзецям насіць не дазваляюць, а вось цацкі – калі ласка. Ззаду за партамі ёсць дыван і на ім падчас перапынкаў дзеці гуляюць і з лялькамі, і з машынкамі. Перапынкі доўжацца 20 хвілін, таму можна нагуляцца.


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Атрымаўшы электронны ключ, Варвара адчула сябе сапраўднай школьніцай.

Настаўніца хваліць Варвару за чытанне і вусныя адказы. А вось пісьмо пакуль яшчэ так сабе. Кажа, рука хутка стамляецца. Раіць, каб дома не прымушалі шмат пісаць. А Варвара і рада.

Афіцыйна дамашніх заданняў у першым класе не задаюць. Але бацькі разумеюць, што, каб быў нейкі вынік, дома час ад часу трэба займацца. Таму першакласніца прыносіць дамоў прапісі і сшытак па матэматыцы.

У прапісях далей за палачкі-кручкі, авальчыкі-кружочкі пакуль справа не пайшла. Па матэматыцы ўжо ўмеем пісаць лічбы 1, 2 і 3. Дамашняе заданне робім увечары, пасля таго, як прыйдзем з прадлёнкі і адпачнём.

А часам здараецца такое, што Варвара забываецца браць дамоў са школы сшыткі з дамашнім заданнем. Мама, канешне, крыху можа пасварыцца за гэта. Але недзе ў душы рада-рада таму, што можна будзе прыгатаваць вячэру і на гадзінку раней легчы спаць.

Дамашняе заданне задаюць не толькі па пісьме і матэматыцы. Напрыклад, па музыцы дзеці вывучалі мінорны і мажорны лад. А дома трэба было намаляваць мінор і мажор. Адпаведна сумную карцінку і вясёлую.

Намалявалі на дзясятку. А дзясяткі па музыцы першакласнікі любяць асабліва. Таму што ў якасці выдатных адзнак настаўніца дае ім маленькія цацкі.

Першакласнікам, па расповедах Варвары, нялёгка даецца беларуская мова. І яна "сціпла" заяўляе, што ведае яе лепш за аднакласнікаў. Бо на нядаўнім уроку адна ў класе змагла адказаць, што такое журавіны.

Амаль заўсёды актыўна праходзіць суботні дзень у школе. І бацькі, якія, можа, мараць адаспацца ў выхадны, усё ж вядуць сваіх любімых першакласнікаў на школьныя мерапрыемствы. Бо тут то мульцікі паказваюць, то канцэрт прапануюць. А каб дзеці, а найперш, бацькі, не забываліся прыйсці ў суботу, пра гэта настаўніца нагадвае ў школьным дзённіку.

Апошні раз сумесна з яшчэ адным першым класам ладзілі віктарыну, хто лепш ведае пра расліны і жывёл. Усе гульцы атрымалі цукеркі, а пераможцы – яшчэ і закладкі.

У хуткім часе плануюць спартландыю.

Сёлета дзякуючы святам канікулы былі дзесяць дзён. Падчас іх наш першы клас пабываў на аглядный экскурсіі па Маладзечне з наведваннем фабрыкі, дзе вырабляюць сувеніры.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Няхай у новай чвэрці дзясятак будзе яшчэ больш

Дарагія школьнікі, спадзяёмся, за канікулы вы не толькі адпачылі, але і паспелі засумаваць па школе і выдатных адзнаках.

Атрымоўвайце 9 і 10 па любых прадметах, запаўняйце бланкі з газеты, дасылайце ў рэдакцыю – і мы пастаемся прыехаць у ваш клас і падбадзёрыць. Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа!

Калі ў вас ёсць пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне ці ў сацыяльных сетках. Запрашайце, каб мы прыехалі ў вашу школу і распавялі пра акцыю "Дзясятачка".

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія тыднёвыя падарункі.

Удзельнічаць у акцыі могуць вучні любой школы ці гімназіі Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мядзельскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў, якім споўнілася 12 год.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за гэты навучальны год. На кожную адзнаку трэба асобны бланк. Прымаюцца толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№45)

1. Імя, прозвішча____________________
2. Дата нараджэння ____________________
3. Клас
Школа____________________
4. Населены пункт____________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ____________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")________
8. Дата атрымання адзнакі ____________________
9. Імя, імя па бацьку ____________________
10. Прозвішча настаўніка ____________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам____________________
12. Подпіс настаўніка____________________

# Чакайце вынікі акцыі "Не губляй ніводнага дня"

**1 лістапада мы скончылі прыём фотаздымкаў для ўдзелу ў акцыі "Не губляй ніводнага дня".**



Усяго нам даслалі дваццаць фотаздымкаў. Большасць удзельнікаў – з Маладзечна. На другім месцы – Вілейка. Ёсць адна ўдзельніца з Мінска.

Усе дасланыя фота размясцілі на нашым сайце. 6 лістапада пачалося галасаванне за лепшы фотаздымак, на думку чытачоў.

Галасаваць можна на нашым сайце rh.by.

**У панядзелак, 13 лістапада, мы абвесцім вынікі.**

Як пісалі раней, пераможцы будуць у трох намінацыях: выбар рэдакцыі, выбар чытачоў і здымак, дзе абыграная тэма "Рэгіянальнай газеты".

Час яшчэ застаўся, таму далучайце да галасавання сваіх сяброў, сваякоў, знаёмых.

А сёння мы прапануем здымак, дасланы на акцыю маладзечанкай **Інай Касач**. На фота – сын Іны **Глеб** у свой першы дзень нараджэння .

Хлопчык вельмі любіць ездзіць з мамай на машыне, таму ў выбары падарунка для сына бацькі не сумняваліся.

Калектыў "Рэгіянальнай газеты".



## Каб атрымаць садовыя арэлі, засталіся тры дні

**Мы працягваем атрымліваць вашы фотаздымкі для ўдзелу ў акцыі "Супергаспадар". На іх – вышываныя карціны, смачнае печыва, прыгожыя драўляныя вырабы.**

Для тых, хто яшчэ не паспеў пахваліцца сваімі здольнасцямі, нагадваем, што да канца прыёму здымкаў засталіся тры дні.

Дасылаць здымкі на **regionnews@rh.by** можна да 13 лістапада. Пасля мы размесцім на нашым сайце rh.by галасаванне, якое будзе доўжыцца ад 17 да 27 лістапада. Той, хто назбірае найбольшую колькасць галасоў, атрымае ў падарунак САДОВЫЯ АРЭЛІ.

Таму, хто зойме другое і трэцяе месцы, мы падрыхтавалі ў падарунак НАБОРЫ АГАРОДНІКА. А ўсе ўдзельнікі акцыі, незалежна ад вынікаў, атрымаюць у падарунак НАБОРЫ НАСЕННЯ як гародніны, так і кветак.

1 снежня мы абвесцім вынікі акцыі на старонках газеты. Каб стаць пераможцам акцыі, неабходна даслаць адно фота ад аднаго чалавека.

У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, населены пункт, нумар тэлефона і некалькі сказаў пра сваё фота і сябе. Фотаздымкі, дасланыя без апісання, да ўдзелу дапускацца не будуць. У тэме ліста абавязкова пазначце "Супергаспадар".

Большасць з дасланых фотаздымкаў мы размесцім і ў папяровай версіі газеты.

Сёння публікуем фота, якое нам даслала **Юлія Краўцова** з Вілейкі. Юлія стварае інтэр'ерных лялек, цацкі з лямца і палімернай гліны. На фотаздымку – сын Юліі Краўцовай і гном, зроблены ў змяшанай тэхніцы.

Цацку віляйчанка зрабіла з палімернай гліны, распісала пастэллю і акрылавымі фарбамі. Па словах Юліі, на выраб цацак ёй часам не хапае не толькі дня, але і ночы.

Калектыў "Рэгіянальнай газеты".

## Выйшла кніжка Клаўдзіі Дубовік пра жыццё і творчасць паэта Пятра Малафея

ВІЛЕЙКА

**Пра жыццё і творчасць паэта-земляка Пятра Малафея распавядае ў сваёй чарговай кнізе віляйчанка Клаўдзія Дубовік.**

Кніга "Не трэба жыцця майго дзён пазалоты" выйшла ў Вілейцы невялікім накладам. У ёй – даследаванне жыцця і творчасці паэта, ураджэнца Куранца, культурнага дзеяча беларускага руху ў Літве Пятра Малафея.

Аўтарка не хваліцца блізкім знаёмствам з паэтам. Хоць яна жыла ў Багданаве, а герой яе кнігі зусім недалёка, у Куранцы, да таго ж, яны хадзілі ў адну школу, сталага знаёмства не атрымалася.

Былі толькі дзве выпадковыя, мімалётныя сустрэчы. У час апошняй з іх у 1990-я, на сесіі дэпутатаў гарадскога Савета ў Вілейцы, Клаўдзія Іванаўна быццам бы і наважылася падысці да земляка ў канцы мерапрыемства, але той хутка выступіў і адразу сышоў.

Клаўдзія Дубовік не раз пісала матэрыялы пра слынных землякоў, "зачапіла" яе і асоба Пятра Малафея. Сачыла за яго творчасцю, гутарыла са сваякамі. У час адной з такіх размоў даведалася, што паэт памёр у Літве.

Натхнёная прыкладам яшчэ аднаго віляйчаніна, журналіста і краязнаўца **Сяргея Макарэвіча**, Клаўдзія Іванаўна ўсё ж вырашыла ўзяцца за літаратурнакраязнаўчае даследаванне.

Яна наведвае школу ў Куранцы. Тут знаходзіць дакументы пра заканчэнне Пятром Малафеем куранецкай школы, яго школьныя фотаздымкі.

Пра Пятра распавядаюць яго сваякі, знаёмыя, суседзі, сябры, аднакласнікі, новыя гаспадары яго роднай хаты. Такім чынам, герой кнігі паўстае не праз сухія біяграфічныя звесткі, а праз жывыя размовы.

Мясцовасць, дзе гадаваўся талент, – родны Куранец – паказаная і праз архіўныя дакументы, і праз асабістае ўспрыманне аўтаркі. Бо дзеля паўнаты даследавання ў адзін з восеньскіх дзён Клаўдзія Іванаўна накіроўваецца на малую радзіму Пятра Малафея.

Чытаючы пра паэта, мы паралельна даведваемся і пра яго землякоў-віляйчан, і пра вёскі Вілейшчыны, і пра школьную адукацыю на вёсцы ў 1960-х гадах.

Каб найпаўней раскрыць перад чытачом асобу паэта, аўтарка звяртаецца і да кіраўніцтва БДУ, дзе вучыўся Пётр Малафей, і ва ўстанову, дзе працаваў яго сын, і ў мэрыю літоўскага горада Шальчыненкай, дзе жыў ён сам. Атрыманыя звесткі, дакументы, фотаздымкі дапаўняюць кнігу.

Аксана ЯРАШОНАК.

# У пяць раніцы аб'язджаў фермы, быў заўсёды ў ботах, гадаваў чацвярых дзяцей

## Аднавяскоўцы – пра легендарнага дырэктара саўгаса "Любань"

ВІЛЕЙКА

**Днямі споўнілася 100 год з дня нараджэння беларускага гаспадарчага дзеяча, дэпутата ВС СССР (1974-1979), Героя Сацыялістычнай Працы (1972), ветэрана вайны, дырэктара саўгаса "Любань" , што на Вілейшчыне, Яўгена Мірановіча (1917-1980).**



Пра аднавяскоўца з нагоды яго 100-годдзя прыгадваюць **Роза Шэрая (Ваўчок)** з Ілы і **Вольга Кавалеўская (Талайка)** з Любані.

### Усе дзеці Мірановічаў былі разумныя і абаяльныя

У сям'і дырэктара саўгаса было чацвёра дзяцей: **Геня**, **Соня**, **Сеня** і **Маша**. З адной з дачок, Геняй (Яўгеніяй), Роза Шэрая і Вольга Кавалеўская вучыліся ў адным класе.

Па словах Розы Канстанцінаўны, усе дзеці Мірановічаў былі вельмі прыгожыя і абаяльныя. Соня Мірановіч – начытаная. У школе яе звалі "наша энцыклапедыя".

Жонка Яўгена Мірановіча **Любоў Фёдараўна** была дырэктарам школы ў Любані, выкладала рускую мову, шмат твораў ведала на памяць. Былыя вучні памятаюць настаўніцу як строгую і патрабавальную.

– Кожную раніцу, – распавядае Роза Канстанцінаўна, – мы ў школе рабілі зарадку. Любоў Фёдараўна праходзіла па радах, правярала, ці чыста апранутыя дзеці, глядзела, каб хлопчыкі былі ў касцюмах, а дзяўчынкі ў форменных сукенках. Дысцыпліна была строгая.

Усе дзеці Мірановічаў атрымалі вышэйшую адукацыю. Калі ў 1980 годзе не стала бацькі, яны выехалі за мяжу назаўсёды. І маці таксама.

### Гэта цяпер дырэктары ў саўгасах ходзяць у туфельках

Яўген Фёдаравіч, прыгадваюць жанчыны, быў заўсёды ў ботах. У чатыры-пяць гадзін раніцы аб'язджаў фермы, глядзеў за парадкам.

– Гэта цяпер старшыні і спецыялісты ў саўгасах ходзяць у туфельках, – кажа Вольга Кавалеўская. – А Мірановіча і яго падначаленых усе запомнілі ў керзавых ботах.

Падчас кіраўніцтва Мірановіча жанчына працавала падлікоўцам – налічвала заробак работнікам саўгаса.

На кіраўніка, па словах Вольгі Цімафееўны, раўняліся і **Уладзімір Завацкі**, галоўны ветэрынарны доктар, і **Міхаіл Казакевіч**, галоўны заатэхнік. Яны таксама амаль увесь час былі на фермах, палях і элеватарах.

Спецыялісты жылі з Вольгай Кавалеўскай у адным доме. Жанчына заўсёды чула, як вельмі рана адна за адной ад'язджалі машыны доктара і заатэхніка.

Па словах Вольгі Цімафееўны, дырэктар саўгаса ведаў, што адбываецца ў яго на кожнай ферме. Падчас аб'ездаў шмат размаўляў з жывёлаводамі, даяркамі.

У 1960-80-я гады амаль не было зладзеяў, якія б нешта выносілі з саўгаса, прыгадала Вольга Кавалеўская. Усе ведалі, што могуць сустрэць дырэктара ў любы час, і днём і ноччу, таму красці баяліся.

### Рабіў усё, каб моладзь вярталася ў родны саўгас

Мірановіч паважаў працавітых людзей, моладзь. Маладых накіроўваў вучыцца і наказваў вяртацца ў саўгас. Многія вучыліся на пчаляроў, рыбаводаў, садаводаў, аграномаў, бухгалтараў, жывёлаводаў. І ўжо атрымаўшы адукацыю, вярталіся назад у родны саўгас.

Месцаў для працы пры Мірановічу хапала ўсім. Быў кансервавы завод, спіртзавод, цэх шыпучых вінаў. Гадавалі авечак і выпускалі брынзу. Былі кабылы, і быў свой кумыс. Вырошчвалі шампіньёны.



Пры Мірановічу ў саўгасе быў духавы аркестр. Падчас адкрыцця помніка ў вёсцы. Першы справа – аўтар помніка Левін. Другі – вядомы ў раёне музыкант Скараходаў, чацвёрты – сын Яўгена Мірановіча, Сямён.

Фота з архіва Розы ШЭРАЙ.

У саўгасе быў вялікі сад і пладовыя кусты, пчаліная і рыбная гаспадаркі.

Пасля нарады да дырэктара заўсёды збіралася чарга вяскоўцаў з просьбамі. Ён, па словах жанчын, усіх выслухоўваў, нікому не адмаўляў.

Вольга Цімафееўна запомніла пастаянную чаргу людзей да кабінета дырэктара. Хто за чым ішоў: каму слоікаў выпісаць, каму – накрывак, каму – мёду. Тады ж у саўгасе ўсяго было, прыгадвае Вольга Кавалеўская.

### Ведаў у твар кожнага

Пры Мірановічу ў Любані пабудавалі кантору, клуб, новую школу. У ёй запрошаны мастак стварыў галерэю партрэтаў лепшых працаўнікоў саўгаса.

Розу Канстанцінаўну заўсёды здзіўляла, што Яўген Фёдаравіч ці не кожнага вяскоўца ведаў у твар і па імені.

– Я з'ехала з Любані і некалькі год там не была, а аднойчы прыехала, – прыгадвае жанчына. – Тады пры сустрэчы з Яўгенам Фёдаравічам я павіталася, а ён адказаў "здравствуй, Роза". Я здзівілася тады, што ён нават імя маё памятае.

А Вольга Кавалеўская прыгадала, як бачыла дырэктара ў яго апошні вечар:

– Я рабіла нейкую вялікую справаздачу. Ведаеце, тады ж у саўгасе шмат розных галін было: і пчолы, і кумыс, і віны, і грыбы, і брынза. Гэта цяпер няма нічога. Дык вось, заседзелася я да дзесяці вечара. Калі выходзіла з канторы, праз акно ўбачыла, што ў кабінеце дырэктара яшчэ гарыць святло. Ён сядзіць за сталом. А з ім нейкі незнаёмы чалавек.

Навіну пра смерць дырэктара Вользе Цімафееўне прынёс муж, які тады працаваў у саўгасе аўтамеханікам. З раніцы пайшоў на працу, але хутка вярнуўся і сказаў, што Мірановіч памёр.

Казалі, прыгадвае Вольга Кавалеўская, раніцай дырэктар яшчэ паспеў пабыць на нарадзе. А калі вярнуўся, падчас сняданку памёр. Па словах жанчыны, ні пра якія хваробы дырэктара вяскоўцы не чулі. Ён нават на пенсію не ішоў, працаваў да апошняга.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

**Даведка "РГ". Яўген Мірановіч** (Анатоль Фінкельштэйн) нарадзіўся 7 лістапада 1917 года ў мястэчку Смілавічы на Чэрвеншчыне ў беднай яўрэйскай сям'і. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1936 год). Ад 1939 года ў Чырвонай Арміі. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны (1939-1940). Падчас Вялікай Айчыннай вайны камандзір партызанскага атрада брыгады Фрунзе, які дзейнічаў на тэрыторы Вілейскай вобласці. У вайну пасля гібелі яго сябра, партызана Яўгена Мірановіча, Анатоль Фінкельштэйн узяў сабе яго імя і прозвішча, выконваючы сваю клятву перад баявым сябрам. Ад 1944 года дырэктар Любанскага спіртзавода, ад 1961 – дырэктар саўгаса "Любань" (пазней – саўгас "Любань" імя 50-годдзя СССР). Пад яго кіраўніцтвам саўгас вырас у буйную шматгаліновую гаспадарку з высокай культурай земляробства і жывёлагадоўлі. За поспехі ў павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак сельскагаспадарчай прадукцыі яму прысвоенае званне Героя Сацыялістычнай Працы. Узнагароджаны ордэнам Леніна (1966, 1971). Пахаваны на гарадскіх могілках Вілейкі на вуліцы Першамайскай.

# Героі сойма 18 стагоддзя, імёнамі якіх называлі дзяцей

*Заканчэнне. Пачатак у №44.*

**ВАЛОЖЫН**

**Гэта заканчэнне публікацыі пра аднаго са слаўных сыноў нашай зямлі Станіслава Багушэвіча-Мінькоўскага. Па паходжанні ён шляхціц, са старажытнага, разгалінаванага беларускага (або ліцвінскага) роду.**

Слава пра гэтых трох ліцвіна-беларускіх герояў сойма пракацілася па ўсёй Рэчы Паспалітай і ўсім свеце. Іх імёнамі сталі называць дзяцей.

Іх подзвіг высока ацанілі ва ўсім свеце, нават расійскія гісторыкі. Ад канца 1780-х пачынае ўзрастаць культ памяці Рэйтана, перш за ўсё ў ВКЛ, на землях сучаснай Беларусі. Ад гэтага культу ў наш час амаль не засталося і следу.

Любоў да бацькаўшчыны аб'яднала розных людзей. Нават іх трагічныя лёсы былі ў нечым падобныя. І ўсе яны не пакінулі тых, хто працягнуў бы іх род па мячы.

## Паветраны шар у гонар Напалеона

Станіслаў Багушэвіч да канца жыцця карыстаўся вялікай павагай на Міншчыне. Ён многа разоў выбіраўся паслом у Галоўны трыбунал ВКЛ. Многа разоў па-сяброўску судзіў месцічаў.

Падчас вайны 1812 года зноў з'явілася ідэя пра волю для бацькаўшчыны. Станіслаў перайшоў на бок Напалеона. Разам з **Антонам Ваньковічам** быў абраны на сойм генеральнай канфедэрацыі.

**Жыхары Мінска запусцілі ў неба паветраны шар з вершамі ў гонар Напалеона і перайменавалі пляц Верхняга рынку ў пляц Напалеона.**

Мінулі два месяцы. Станіслаў Багушэвіч прызначаны камісарам у 20-ы уланскі полк Літоўскай кавалерыі. У гэтым жа палку служыў пляменнік яго слаўнага таварыша Тадэвуша Рэйтана.

## Пахаваў семярых дзяцей

Жонка Станіслава, Тэрэза з Іваноўскіх, зрабіла шмат ахвяраванняў для лазарэтаў нашых войскаў.

На жаль, лёс не быў літасцівы да Станіслава Багушэвіча.

**У яго было васьмёра дзяцей, але бацьку перажыла толькі дачка.**

Дакладная дата смерці Станіслава Багушэвіча, як і дата нараджэння, невядомая. Па адной версіі, ён памёр 26 жніўня 1819 года. Паводле іншай, памёр 28 жніўня 1817 года і пахаваны ў касцёле св. Антонія (цяпер св. Міхала) у Івянцы. Першая дата вядомая з твора **Уладзіслава Сыракомлі**, другая з пахавальнай пліты, змешчанай у гэтым падвале на падлозе.

## Надмагільная пліта знікла

Прыкладна так выглядала тая надмагільная пліта (на ілюстрацыі справа). Выгляд адлівандай жалезнай надмагільнай пліты братоў Станіслава і Міхала, якая яшчэ ў 1922 годзе знаходзілася на падлозе з левага боку касцёла, быў рэканструяваны на падставе падрабязнага апісання францішканскай святыні.

Яго зрабіў айцец **Алоіз Карвацкі** і захаваў у рукапісных "Матэрыялах па гісторыі правінцыі і канвенту АА, Францішканаў" Т.5. С. 33.

Апісанне гэтай пліты дае **Станіслаў Плявака** ў сваім артыкуле "Rekonstrukcja płyty grobowej Bohuszewicz-Minkowskich w kościele św. Michała oo. franciszkanów w Iwieńcu ("Рэканструкцыя надмагільнай пліты па Багушэвічах-Мінькоўскіх у касцёле св. Міхала аа. Францішканаў у Івянцы) у польскім часопісе "Merkuriusz" за 2008 год.

Пліта да нашага часу не захавалася. Пасля вайны яна знікла, і месца пахавання невядомае.

Сёння імя Багушэвіча мала вядомае сучаснікам. Тым не менш першыя крокі па вяртанні імя з забыцця зробленыя. Чатыры гады арт-суполка імя Тадэвуша Рэйтана паслядоўна займаецца папулярызацыяй імёнаў герояў сойма – Тадэвуша Рэйтана, Самойлы Корсака, Станіслава Багушэвіча-Мінькоўскага, Ігната Кураненўскага і іншых.

**Ігар СОЛТАН,**
**бібліятэкар Івянецкай гарпасялковай бібліятэкі.**
**Зміцер ЮРКЕВІЧ.**




Касцёл святога архангела Міхала ў Івянцы.

Tu są pogrzebieni
Dway Bracia rodzeni

| Stanisław Bohuszewicz | Michał Bohuszewicz |
|---|---|
| Poseł na Sejm Roku 1773 Sędzia Wtwa Minskiego, Cnotliwy obywatel, dobry mąż, Ojciec i Pan dla włościan. Żył lat 65. Umarł dnia 28 sierpnia 1817 r. | Szambelan Dworu Polskiego Naylepszy Brat, Stryi i Opiekun nayuczciwszy człowiek Żył lat 70. Umarł dã 26 grudnia 1826 r. |

Hołd winny Im wdzięczności oddaie,
przywiązana córka jednego
a drugiego Synowica i prosi przechodnia, o
westchnienie do Boga.

Прыкладна так выглядаў надпіс на надмагільнай пліце па братах Станіславу і Міхалу Багушэвічах-Мінькоўскіх.

● КАЛЯНДАР

**11 ЛІСТАПАДА**
Дзень памяці загінулых у Першай сусветнай вайне, заканчэнне Першай сусветнай вайны.

**12 ЛІСТАПАДА**
**1930.** Нарадзіўся **Восіп Блізнюк** (в. Шаматова, цяпер Смаргонскі раён), удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смаргоні, вязень савецкіх канцлагераў.

**14 ЛІСТАПАДА**
**205 гадоў** з дня нараджэння **Паўлюка Багрыма** (1812 – 1891), беларускага паэта.

**1939.** 3-я (нечарговая) сесія Вярхоўнага Савета БССР 1-га склікання прыняла закон "Аб прыняцці Заходняй Беларусі ў склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі".

**1987.** Памёр **Факунда Несцяровіч**, удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху на Мядзельшчыне, вязень савецкіх канцлагераў. Суд над большасцю ўдзельнікаў мядзельска-смаргонскага падполля адбыўся ў Маладзечне ў чэрвені-ліпені 1950. Было асуджана ўсяго дзевятнаццаць чалавек. Двое, кіраўнікі, **Расціслаў Лапіцкі** і Факунда Несцяровіч, былі прыгавораныя да расстрэлу. Несцяровіч напісаў прашэнне аб памілаванні, і расстрэл яму замянілі зняволеннем.

**15 ЛІСТАПАДА**
**70 гадоў** з дня нараджэння (1947) **Анатоля Ярмоленкі**, беларускага эстраднага спевака, народнага артыста Беларусі.

**16 ЛІСТАПАДА**
**1982.** 35 гадоў назад памёр **Андрэй Макаёнак**, беларускі драматург, народны пісьменнік Беларусі. Пісаў гумарэскі, фельетоны, нарысы. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1962) за п'есу "Лявоніха на арбіце", Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1974) за п'есы "Трыбунал" і "Таблетку пад язык". Апошні закончаны твор – трагікамедыя "Дыхайце эканомна" (апубл. 1983), п'еса-прытча, у якой аб'ектам аўтарскага асэнсавання стала найважнейшая агульначалавечая праблема захавання Зямлі ад тэрмаядзернай катастрофы. Нарадзіўся 12 лістапада 1920 года.

**1925.** Нарадзіўся **Кастусь Акула** (да эміграцыі Аляксандр Качан), пісьменнік, беларускі грамадскі дзеяч эміграцыі. Ён адзіны з беларускіх пісьменнікаў замежжа напісаў раман на англійскай мове "Заўтра – гэта ўчора" (1968) пра лёс беларусаў і Беларусі ваенный і паваенны пары. Памёр 29 студзеня 2008 года.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ТЭМА НУМАРА

# У вёсцы Пажарышча цяпер няма з к… а раней было нават сваё "тэлебачан…



У вёсцы Пажарышча цяпер каля 20 пастаянных жыхароў. Жанна Ігнатовіч у свае 53 гады лічыцца "моладдзю".


Жанна Ігнатовіч прызнаецца, што за зіму, бывае, у вёсцы няма з ім павітацца. І каб не праца ў суседнім Гарадку, было б зусім сумна.


Гаспадарку Жанны ахоўваюць два сабакі. Яшчэ адзін, Барбос, прыбіўся, калі яго гаспадары-дачнікі на зіму з'ехалі ў горад.


Кот Томас не любіць прасы. І Жанне даводзіцца ці сачыць за катом, ці хаваць гарачы прас далей ад каціных лапаў, якія так і хочуць яго перавярнуць.

МАЛАДЗЕЧНА

**Вёска Пажарышча знаходзіцца ад Маладзечна ўсяго ў 30 кіламетрах. Але калі ў горадзе мігцяць агні, кавярні завуць на вячэру, у магазінах натоўпы людзей, то ў Пажарышчы, бывае, за месяц няма з кім павітацца.**

Мы гэта не прыдумалі, а з'ездзілі халодным лістападаўскім днём у гэту вёску і пазнаёміліся з яе жыхаркай – **Жаннай Ігнатовіч**. Яна і расказала аб гэтым.

– Наша вёска і раней не была вялікая – двароў 40, не больш. Але цяпер у гэтых 40 дварах амаль не засталося жыхароў. Нехта прыязджае на лета, хтосьці вярнуўся ў дом да сваіх бацькоў, некалькі бабулек жыве. І ўсё. Зімой, бывае, выйдзеш на вуліцу – ні машын, ні людзей. Павітацца няма з кім. А дзіцячага смеху ў вёсцы не чуваць даўно. Калі толькі ўнукі да каго прыедуць.

### У Пажарышчы могілкі 19 стагоддзя. І помнікі, якія жыхары рабілі сваімі рукамі

Жанне Ігнатовіч – 53 гады. Жыве ў Пажарышчы ад нараджэння. Мае дарослую дачку, унука Ромку. Працуе санітаркай у Гарадку. Трымае гаспадарку – свінак і курэй. У двары жывуць два сабачкі. Яшчэ адзін – прыбіўся. Яго пакінулі дачнікі. Жанна яго корміць. У хаце гаспадарыць кот Томас. Яшчэ Жанна даглядае мясцовыя могілкі.

З іх і пачала экскурсію па вёсцы.

– Калі год таму мяне папрасіў старшыня сельвыканкама зрабіць перапіс магілак, я пачала з таго канца, што недалёка ад маёй хаты. Перапісала толькі на рагу і ўжо атрымалася каля 100 імёнаў.

Уся шматгадовая гісторыя вёскі тут.

– Напэўна, захаваліся камяні з 19 стагоддзя. Бо на іх ужо нельга і надпіс прачытаць. А вось магілка 1916 года.

Помнік з каменя незвычайнай формы.

– Бацька расказваў, што гэты помнік зрабіў наш аднавяскоўвец уласнымі рукамі без дапамогі якіх-небудзь прылад у памяць аб сваёй дачцэ, якая трагічна загінула ў малым узросце.

### Уніяцкую царкву разабралі на дошкі для пачатковай школы

Мы з Жаннай падымаемся ўгору.

– А тут стаяла ўніяцкая царква. Казалі, што яе пабудавалі яшчэ ў сярэдзіне 19-га стагоддзя. А можа, і раней. І стаяла яна тут аж да 60-гадоў 20 стагоддзя. Царква была драўляная. А калі прыйшлі "саветы", разабралі на дошкі і перавезлі ў суседнюю вёску Пятроўшчыну, пабудавалі з яе школу. Цяпер гэту школу нехта выкупіў, абклаў сайдынгам. Але ж пад сайдынгам тыя самыя дошкі старой уніяцкай царквы.

Жанна расказвае, што разам з будынкам знішчылі ўсю царкоўную маёмасць.

– Мой тата расказваў, што калі разбуралі царкву, то ў двор выкідвалі кнігі. Старажытныя такія, абцягнутыя цялячай скурай. Вяскоўцы пабаяліся іх браць. Палічылі ці то грахом царкоўную маёмасць забіраць, ці што ўлады за гэта пакараюць. А тагачасныя ўлады расклалі вялікі касцёр і ўсе гэтыя кнігі папалілі. Уяўляеце, такую гісторыю спалілі!

Жанна падымаецца вышэй, разграбае рукамі апалае лісце.

# ...кім павітацца, ...не"





На гэтым месцы да 60-х гадоў 20 стагоддзя стаяла драўляная ўніяцкая царква, якую разабралі і зрабілі з дошак школу ў Пятроўшчыне. На месцы царквы засталіся камяні былога падмурка і "ахвярны" камень. Камень з дзірачкай, у які кідалі грошы.



Мядзведзя Топуся Жанне падарылі бацькі, калі яна была яшчэ зусім маленькая.



Дом Жанны стаіць на месцы, якое выбраў яшчэ яе прадзед, калі прыехаў у Пажарышча са Смалявічаў яшчэ ў 1860-х гадах.



Гэты незвычайны помнік з каменю зрабіў сваімі рукамі жыхар Пажарышча ў 1916 годзе з прычыны трагічнай смерці дачкі.

– А вось тут ахвярны камень. Бачыце, дзірачка ў сярэдзіне. Туды манеткі кідалі. Хто ведае, можа, там яшчэ можна знайсці скарбы 19 стагоддзя.

### Прадзед быў аканомам, а дзед ездзіў у Вільню на кані

Тут жа на гары Жанна паказвае магілкі бацькоў і дзеда. Магілка таты глядзіць на хату.

– Тата сам выбіраў гэта месца. Як і для хаты. Раней тут стаяла старая, у якой яшчэ жыў мой дзед, а да яго – прадзед. Прадзед яшчэ пры прыгонным праве прыехаў сюды са Смалявічаў. Купіў тут зямлю. Расказвалі, што ён быў аканомам у пана. А дзед мой вазіў тавары з Вільні яўрэям у Гарадок. На кані вазіў. Во час быў. На кані ў Вільню. І тата расказваў, як да вайны тут было весела.

### У Гарадку працавала мясцовае "тэлебачанне" – чалавек, які расказваў усе навіны

У Пажарышчы ніколі не было школы. У пачатковую дзеці хадзілі за кіламетр у суседнюю Пятроўшчыну. А ў старэйшыя класы – за пяць кіламетраў у Гарадок.

– Тата расказваў, што да вайны ў Гарадку было цікавей, чым у якім вялікім горадзе. Тут працавала шмат яўрэйскіх лавачак, дзе можна было купіць абутак, адзенне, хлеб ці смачныя цукеркі дзецям. А па выхадных збіраўся вялікі кірмаш. Была тут і свая "тэлеперадача" – "Навіны. Час мясцовы". У адзін і той час усе збіраліся вакол аднаго мясцовага чалавека, які цягам тыдня па навакольных вёсках збіраў навіны. І тут, як гаворыцца, пры ўсіх добрых людзях, расказваў, што дзе адбылося на мінулым тыдні.

А потым была вайна.

– Пажарышчам было цяжка ў вайну. Немцы тут доўга стаялі. Аднойчы ледзьве не спалілі вёску. Партызаны ўзарвалі мост, на якім падарваліся нямецкія матацыклісты. Немцы прыйшлі ў вёску, каб адпомсціць жыхарам. Але мясцовы жыхар, ён не быў старастам, войт гэта пасада яго называлася, ці як, добра ведаў нямецкую мову, бо ў Першую сусветную вайну ваяваў, патлумачыў немцам, што мірныя жыхары не вінаватыя ні ў чым. Войт вёску выратаваў, а яго самога не выратаваў ніхто. Пасля вайны забралі, а куды ён дзеўся, што з ім стала, ніхто не ведае.

Пасля паўзы Жанна дадае:

– А яшчэ мясцовыя жыхары баяліся начэй. Бо хто прыйдзе – партызаны ці бандыты, – ніхто не ведаў. Страшны час быў.

### Даводзіцца сачыць за катом, бо той не любіць прас

А ў пасляваенны час вёска ажыла.

– У нас тут нават клуб з бібліятэкай працаваў. Моладзі было столькі, што яблыку не было дзе ўпасці. Прыязджалі нават з Мінска. Тут жа ад нас да Маладзечна кіламетраў 25-30, а да Мінска па ракаўскай трасе – сорак. Вёска стаяла пасярэдзіне.

А цяпер, як кажа Жанна, павітацца няма з кім. Калі мы прыехалі ў вёску, Жанна працавала ў агародзе.

– Каб не ездзіла на працу ў Гарадок, тут можна за зіму адзічэць. Добра, што ўнук прыязджае, парадкі тут свае панаводзіць, дык пакуль прыбяруся, ёсць занятак.

Жанна запрашае ў хату. Вялікая веранда, шмат пакояў. Печка.

– У хаце цёпла, утульна. З катом ваюю. Томас чамусьці не любіць прас. Даводзіцца глядзець, каб не перавярнуў, пакуль гарачы, і не апёк сабе лапы.

### Топусь – мядзведзь, равеснік Жанны

Па падлозе раскіданыя цацкі Ромкі.

– Гэта лялька дачкі. А гэты мішка – Топусь – мой. Памятаю, як у дзяцінстве баялася яго, бо быў большы за мяне. Ён раней кракта, цяпер маўчыць. Я рада, што захавала яго. Цяпер такіх цацак няма.

Калі Жанна праводзіла на брамы, расказала, што вёска, верагодна, называецца Пажарышчам, бо калісьці згарэла.

– У нас тут і лес называецца Гарэлае. Вы прыязджайце летам, калі ў лесе шмат ягад і грыбоў, а вось за той горкай – найпрыгажэйшае возера Гліннае. І вы ўбачыце зусім іншае Пажарышча.

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара.**

# Ці будзе адзіны футбольны клуб прадстаўляць раён у першай лізе?

МАЛАДЗЕЧНА

**Футбольная тэма, як не круці, самая балючая ў спартыўным жыцці раёна.**



На стадыёне ў Чысці трэба паставіць пластыкавыя крэслы і лаўкі запасных.

Фота з архіва "РГ."

Дырэктар футбольнага клуба "Маладзечна" **Андрэй Іваненка** пакінуў сваю пасаду. ФК "Маладзечна" заняў шостае месца ў чэмпіянаце і зноў апынуўся на раздарожжы: што рабіць і як гуляць. ФК "Чысць" заняў другое месца, і ў Маладзечанскім раёне цяпер віруе жыццё: трэба сабраць безліч дакументаў, сустрэцца з кіраўніцтвам горада, вырашыць пытанні фінансавання. Заўзятары Маладзечна прапануюць сваю версію развіцця падзей, а аддзел адукацыі, спорту і турызму сцвярджае, што адна каманда ад горада нашмат бы спрасціла жыццё.

## Сяргей Уладыка: "Пакінь надзею той, хто сюды ўваходзіць"

Аўтар "Рэгіянальнай газеты" Сяргей Уладыка бачыць сітуацыю такім чынам.

Як вядома нам з Данта Аліг'еры, фраза "Пакінь надзею той, хто сюды ўваходзіць" была напісаная на варотах пекла. Па "Гарадскім" стадыёне, канешне, не ездзілі калясніцы з чарцямі, ніхто не бегаў па полі, аблітым смалой і абсыпаны пер'ем, але гэта фраза цалкам магла б здабыць другое жыццё, калі б яе размясцілі на ўваходных варотах стадыёна.

Можна доўга цешыцца надзеяй на тое, што наш футбольны клуб вось-вось здабудзе другое жыццё і пачне развівацца: з вечнага клуба другой лігі ператворыцца ў каманду першай лігі з перспектывамі на вышэйшую.

Можна. Але... Што можа быць горш за падманутыя чаканні? Памятаеце, як хваляваўся выдуманы Астрыд Ліндгрэн Малыш, калі бацькі не падарылі яму сабаку, якога абяцалі? Дык у яго ў распараджэнні быў Карлсан, гатовы ўсяляк пацешыць хлопца. А ў нас?

Маладзечанскі футбол мёртвы ўжо некалькі гадоў, тым не менш некаторыя не пакідаюць надзей, што "раптам прыляціць чараўнік у блакітным верталёце і бясплатна пакажа кіно". Такім чараўніком апошнім часам лічыўся **Андрэй Іваненка**.

Чаго толькі не рабіў Андрэй па ходзе цяперашняга сезона! І "зараджаў ваду", завабліваў заўзятараў на стадыён рознымі рэкламнымі хадамі: ад розыгрышу тур-пуцёўкі да частавання семкамі на выхадзе са стадыёна.

І праводзіў магічныя абрады па ўліванні ў труп свежай крыві: так у Маладзечне з'явіліся якасныя па беларускіх мерках гульцы – **Кошаль, Макараў, Сійяка, Нгуен.**

Не дапамагло. Глядач не хацеў хлеба – мучыла смага відовішчаў, а відовішча якраз і не песціла вока. Новая кроў адмаўлялася цыркуляваць па мёртвым целе – вынік таму так і не прыйшоў.

У канцы сезона Іваненка вырашыў пашукаць падтрымку гарадской адміністрацыі ў поглядах на будучыню. Але адміністрацыя, мяркуючы па ўсім, апынулася абыякавай да лёсу каманды.

І тут адбылося непапраўнае. Чараўнік пачаў сумнявацца ў сваіх магчымасцях. Прайшоўшы амаль па ўсіх кругах маладзечанскага пекла, Андрэй Іваненка пакідае каманду.

Ён у мінулым нумары патлумачыў сваё рашэнне, больш яму сказаць няма чаго. Гульцы каманды адмовіліся каментаваць сыход Іваненкі. Сезон вялікіх надзей і велізарных расчараванняў. А што можа быць горш за нядзейсненыя мары? Толькі іх поўная адсутнасць!

## Заўзятар Дзмітры Рухлевіч: рукі апускаць рана, можна ж аб'яднацца

– З будучым маладзечанскага футбола, канешне, не ўсё так проста, але вось адзін варыянт развіцця ўсё ж можна разгледзець. Чаму б не стварыць адну каманду нашага раёна пад умоўнай нейтральнай назвай ФК "Уша" альбо ФК "Дынама". У 1949 годзе менавіта пад гэтай назвай наш раён быў упершыню прадстаўлены ў чэмпіянаце Беларусі. Для чаго ўсё гэта? Ёсць выдатная база ў выглядзе складу гульцоў ФК "Чысць". Гэтыя маладыя хлопцы сваёй гульнёй адназначна заслужылі права на павышэнне, але кропкавае ўзмацненне і канкурэнцыю маглі б скласці некаторыя гульцы ФК "Маладзечна-ДЮСШ-4". Кіраваць камандай у адміністрацыйнай частцы выдатна б мог **Мікалай Мятліцкі**, які ўжо не першы год на справе паказвае, што гатовы шукаць і знаходзіць шляхі вырашэння пытанняў па развіцці футбола ў рэгіёне. Галоўным трэнерам стаў бы **Дзяніс Мятліцкі**, у якога для гэтага ёсць адпаведная ліцэнзія, а **Сяргей Дараховіч** мог бы яму ў гэтым дапамагаць, пра што ён неаднаразова заяўляў. Два маладыя і амбіцыйныя трэнеры, дарэчы, раней разам выступалі ў складзе ФК "Маладзечна-2000".

Гуляць каманда магла б у Маладзечне на гарадскім стадыёне, у адрозненне ад стадыёна ў Чысці, па ім у частцы ліцэнзавання пытанняў няма. Навучэнцы ДЮСШ-4 маглі б выступаць на турнірах ліцэнзавання.

**Выходзіць, што ад зліцця двух камандаў мог бы атрымацца той самы якасны крок наперад па развіцці футбола ў рэгіёне, якога так доўга чакаюць нашы шматлікія заўзятары гульні №1.**

Але пакуль што гэта ўсяго толькі думкі ўслых...

## Мікалай Мятліцкі: аб'яднаемся з Маладзечнам, калі выйдзем у вышэйшую лігу

Дырэктару ФК "Чысць" няма калі разважаць над лёсам каманды, бо спраў безліч.

– Калі каманда будзе гуляць у вышэйшай лізе, тады, адназначна, трэба будзе аб'ядноўваць усе сілы. Вы што, такі горад не можа быць у баку ад футбола! А першую лігу мы пацягнем і самі. У дадзены момант я збіраю ўсе неабходныя для першай лігі дакументы, стэлефаноўваюся з Жыткавічамі. Выхад у першую лігу для іх таксама новы досвед. Цяпер пішу звароты ў розныя інстанцыі, каб на стадыёне ў Чысці паставіць пластыкавыя крэслы. Ці думаў я пра аб'яднанне? Пакуль не.

**Футбалісты ФК "Чысць" сумленна заслужылі выхад у першую лігу сваёй гульнёй і сваім стаўленнем да гульні. І я, канешне ж, хацеў, каб там гуляла каманда з назвай "Чысць". Да таго ж, гэта будзе справядліва і ў адносінах да нашых балельшчыкаў. І хачу, каб гулялі мы на нашым стадыёне.**

А патрабаванні да стадыёна не такія ўжо і невыканальныя. Паставіць пластыкавыя крэслы і лаўкі запасных. Я спецыяльна цяпер у школе ўзяў адпачынак, каб цягам месяца падрыхтаваць усе дакументы, сустрэцца з кіраўніцтвам горада. Я ж яшчэ не ведаю, што яны нам прапануюць. Тады і будзем гаварыць пра магчымае супрацоўніцтва. Мы ж не супраць, мы адкрытыя да супрацоўніцтва. І калі, напрыклад, футбалісты з Маладзечна захочуць гуляць у Чысці, мы ж не адмовім.

## Мікалай Шрымф: не хацелася б распыляцца

Намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама Мікалай Шрымф на пытанне, як ён бачыць сітуацыю з футболам на будучы год, сказаў:

– Каб адказаць на гэта пытанне, трэба сустрэцца з кіраўніцтвам горада. Пакуль гэта пытанне не абмяркоўвалася ніяк. Скончыўся футбольны сезон, футбалістам і кіраўнікам камандаў трэба даць час на адпачынак. Што датычыцца майго асабістага меркавання, то я лічу, што было б лепей, каб ФК "Маладзечна" і ФК "Чысць" аб'ядналіся ў адну каманду. Гэта лепш, чым распыляцца на тры розныя лігі.



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-
566-26-99
(працоўны)



# Крыжаванка



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Славянскі адпаведнік слову "нарманы".
4. Аднародныя прадметы на адным стрыжні.
5. Племя ля падножжа Кіліманджары. Жыллё яны будуюць з галінак, абмазаных гноем, асноўная частка рацыёну – малако ці кроў жывёл. Адрозная прыкмета прыгажосці жанчын – выцягнутыя мочкі вушэй.
7. Процілеглае злу, ліху.
8. Цётка: "Веру, братцы: людзьмі станем, Хутка скончым мы свой сон; На свет Божы шырэй глянем, Век напіша нам... ".
11. Ягады, для збору якіх беларусы вынайшлі мокры спосаб.
12. Разгон, парывістасць, імклівасць.
13. Невялікі літаратурны твор, які ідэалізавана паказвае вясковы побыт на ўлонні прыроды.
14. Штат ЗША, празваны Залатым Захадам, зямлёй малака і мёду, а таксама Эльдарада.
16. Бескарыснае, непрыгоднае.
17. Органы чалавека або жывёлы; вантробы.
20. Даўжнік прадпрыемства, арганізацыі, установы.
24. Гэта слова ўзнікла, калі людзі вырашылі, што богі дапамагаюць адным, а іншым пасылаюць беды.
26. Старажытная арабская залатая манета.

**ПО ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Кандытарскі выраб з салодкай арэхавай масы.
3. Той, хто нядаўна прыняў рэлігію.
6. Гэта княжна ў Парыжы выдавала сябе за высакародную чаркешанку, пасля за дачку Кацярыны II, а пасля яе арыштаваў граф Арлоў.
9. Поўнач, паўночны напрамак.
10. Краіна, назва сталіцы якой перакладаецца як "Бухта, што дыміцца".
12. Выпадак, здарэнне (звычайна непрыемнага характару).
15. Назавіце краіну, у якой канфліктавалі дзве партыі: прыхільнікі разбівання яйка з тупога канца і з вострага.
17. Тонка ссуканая пража, якая ўжываецца для шыцця, вязання.
18. Крэдытная аперацыя куплі банкам вэксаля або іншага пазыковага абавязацельства да заканчэння іх тэрміну.
19. Англічане называюць гэты дзень "Дзень Сатурна".
21. Горад у Італіі, уезд у які каштуе 500 еўра.
22. Выцягнутая ўдоўжкі, звычайна прамавугольная, частка памяшкання, аддзеленая радам калон або слупоў.
23. Які мае несуразмерную, непрапарцыянальную постаць, форму; нясккладны, нястройны.
25. Горад, у якім у кастрычніку жыхар Чысці Андрэй Жукоўскі атрымаў званне чэмпіёна свету па панкратыёне.
26. Прылада для аблівання цела тонкімі вадзянымі струменьчыкамі.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №43. ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Яхант. 4. Хітон. 6. Эдысан. 8. Ахвяра. 9. Хамут. 10. Яслі. 11. Ядрыца. 14. Хмара. 15. Хутар. 18. Сава. 19. Атэлье. 21. Кіпр. 23. Аўтобус. 24. Гадзіннік. **ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Фамус. 3. Атрыбут. 5. Кэнэдзі. 7. Кляймо. 8. Афсет. 12. Мітрафанушка. 13. Вандалы. 15. Хрып. 16. Ярус. 17. Хамса. 20. Рака. 22. Папера.

## ГАРАСКОП 10-16 ЛІСТАПАДА



**АВЕН.** Змены ў асабістым жыцці не адбудуцца самі па сабе, прыкладзіце намаганні, каб усё змянілася да лепшага.



**ЦЯЛЕЦ.** Дні спрыяльныя для вас і добрыя для любых пачынанняў. Цяпер у вас прачынаецца дыктатар, што добра для дасягнення мэт і прасоўвання ўласных ідэй, але можа не вельмі добра адбіцца на ўласным жыцці. Вы можаце аддацца на волю лёсу, давяраючы яму рашэнні ўсіх важных пытанняў.



**БЛІЗНЯТЫ.** Нейкая перамога дазволіць вам яшчэ доўга адчуваць сябе на кані. Спрыяльны час для тых, хто запланаваў прарыў у справах, каб адным махам усё вырашыць. Ладзяцца справы і ў сям'і. Любыя канфлікты сыдуць, наступіць мір і спакой. Калі спатрэбіцца зрабіць выбар, кіруйцеся падказкамі сэрца.



**РАК.** Вы будзеце літаральна рвацца ў бой. Перад вамі адкрываюцца многія магчымасці, і калі зрабіць правільныя крокі, то падзеі гэтых дзён прынясуць вам поспех ці, як мінімум, значнае набліжэнне да запаветнай мэты.



**ЛЕЎ.** Вас чакаюць сур'ёзныя перамены ў асабістым жыцці. На жаль, цяпер вам трэба пазбаўляцца ад старых, якія аджылі сваё, адносін. Такі працэс можа быць балючы, але ён неабходны. Вам не захочацца нічога рабіць, але калі вы зберацеся з сіламі, то зможаце ўсё выкарыстаць з карысцю для сябе, разабрацца ў сабе і ў будучыні інакш падыходзіць да свайго жыцця.



**ДЗЕВА.** Спрыяльны перыяд для духоўнага развіцця ці проста прыемных зносін з чалавекам, які можа вас шмат чаму навучыць. Калі ў вашым жыцці накапіліся эмацыйныя праблемы, то смела звяртайцеся па дапамогу і параду да тых, каму давяраеце. Магчымыя змяненні ў лепшы бок у фінансавай сферы.



**ШАЛІ.** Усё мітусня і мітусня. Падзеі гэтых дзён інакш апісаць нельга. Хоць перад вамі і адкрываюцца новыя гарызонты, ёсць куды развівацца і імкнуцца, але шлях не выглядае такім простым, як можа здавацца спачатку. Эмоцыі ў гэтыя дні трымайце пад кантролем, і гэта не дазволіць вам раскіснуць у патрэбны момант.



**СКАРПІЁН.** Не ўдзельнічайце ў авантурных і іншых рызыкоўных мерапрыемствах і будзьце асцярожныя за рулём.



**СТРАЛЕЦ.** Надышоў той час, калі вы самі творыце сваё шчасце. Адчуйце перамены ў асабістым жыцці, праяўляйце ініцыятыву.



**КАЗЯРОГ.** Стаўце перад сабой маштабныя мэты, павышайце планку чаканняў і не лянуйцеся: вам многае будзе дадзена зоркамі.



**ВАДАЛЕЙ.** Ідзіце туды, дзе яшчэ не былі, рабіце тое, што ніколі ў жыцці не рабілі. І не верце тым, хто скажа, што так не бывае. Бывае! Ды вы і самі адчуеце, што так павінна быць. І складайце планы, каб дух займала ад вашай смеласці.



**РЫБЫ.** Звярніце ўвагу на сваё ўласнае жыццё. Не, ніякіх праблем няма, насупраць, усяго шмат і нават занадта. Адсюль ёсць рызыка перанасыціцца адносінамі, гэтым радасным і прыемным жыццём, пасля чаго паглядваць па баках. Мы не заўсёды цэнім тое, што ёсць, імкнёмся валодаць большым ці хаця б проста чымсьці новым. Удзяліце час не толькі асалодзе, але і роздумам аб сэнсе свайго жыцця.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**



## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 | | | 4 | | 3 | 5 | |
| 3 | 6 | 1 | | | | | | 4 |
| 5 | | 8 | | | 3 | 9 | | |
| | 5 | 6 | | 3 | | | 2 | |
| 2 | | | 7 | 6 | | | | |
| | | 9 | | | 4 | | | 5 |
| | 9 | 7 | | 8 | | | | |
| | 1 | | | | 2 | | | |
| | 2 | | 4 | 7 | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

ISSN 1991-7155

9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 11 лістапада, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +4 / +5 | | +6 / +5 | | +2 / +5 | | +3 / +5 | |
| | 738 | ↗ 4 | 742 | ↗ 4 | 726 | ↗ 9 | 739 | ↗ 4 |
| Вільня | +4 / +4 | | +5 / +5 | | +3 / +2 | | +3 / +5 | |
| | 743 | ↗ 5 | 737 | ↗ 6 | 746 | ↑ 5 | 745 | ↗ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.35
Захад 17.18
Даўжыня дня 8.43

Усход 0.00
Захад 15.02
Квадра 4

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +5 / +6 | 732 | ↗ 10 |
| Гродна | +6 / +5 | 742 | ↗ 6 |
| Мінск | +6 / +5 | 742 | ↗ 4 |
| Магілёў | +5 / +6 | 739 | ↗ 7 |
| Брэст | +6 / +9 | 742 | → 5 |
| Гомель | +7 / +8 | 744 | ↗ 6 |

● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -9,6 °C у 1999 годзе
Максімальная тэмпература +11,9 °C у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9 мм у 2009 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- На што перайшлі падлеткі пасля спайсаў, у якія небяспечныя гульні гуляюць школьнікі, што адбываецца з дзецьмі, якія парушылі закон, – тое, што неабходна ведаць бацькам, распавёў работнік інспекцыі па справах непаўнагадовых.



**Камент-эксперт**

Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце

Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках

**Першая сустрэча з дачушкай. Удзельнік №13 акцыі "Не губляй ніводнага дня"**

Было б добра, каб ён на дачушку глядзеў)) ***Марына.***

**Фота ад мамы дзвюх прынцэс. Удзельнік №16 акцыі "Не губляй ніводнага дня"**

Людмілу ведаю ўжо пяць год, гэта цудоўная мама дзвюх дачушак і цудоўны валанцёр, якая ў любы момант гатовая дапамагчы людзям, чалавек з добрай душой. Здароўя, шчасця тваёй сям'і, Людачка. ***Святлана.***

**Святкаванне 70 год Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Вілейцы**

Шыкоўная настальгічная падборка – ужо вілейская гісторыя! Дзякуй! ***Аляксандр.***

**У пяць раніцы аб'язджаў фермы, быў заўсёды ў ботах, гадаваў чацвярых дзяцей: аднавяскоўцы – пра легендарнага дырэктара саўгаса "Любань"**

А якую школу пабудаваў! Не ў кожным горадзе такая была. ***Таіса.***

**Глеб ва ўласным аўто. Удзельнік №20 акцыі "Не губляй ніводнага дня"**

Мілашка! Такі клёвы канкурсант! ***Тамара.***

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Мой муж – герой. Прайшоў дзве вайны. Стаміўся. Выключыў камп'ютар, пайшоў спаць.

***

– Нашто табе столькі кароткіх суконак?
– Дык я ж – дзяўчынка.
– Табе ўжо сорак было!
– І што, па-твойму, я хлопчык цяпер?

***

Знакі пунктуацыі з'явіліся ў 15 стагоддзі. Прайшло больш за 500 год, а некаторыя так і не ведаюць пра гэту падзею.

***

Муж падарыў пуцёўку на курорт "Дэкрэт". Такая насычаная праграма, што нават спаць няма калі.

***

– Прывітанне, суседзі. Як ваша немаўлятка?
– Ды немаўлятка – нармальна. А вось мы ніяк не можам выспацца.

– А як Лена?
– Лена – гэта я. Гена выглядае горш.

***

Піцу звычайна робяць з таго, што ёсць у халадзільніку. Зазірнула ў свой, а там бутэлька каньяку і лімон. Нейк насцярожвае мяне такая піца.

***

Добра было ў дзяцінстве. Мішурой абматаўся, пад ёлку залез, мандарынку з'еў – і ты ў казцы. А цяпер не ведаеш, чым абматацца, куды залезці і што з'есці, каб быў навагодні настрой.

***

– Ці спадабаліся вашаму сыночку падарункі?
– Ой, пабіў ён усе падарункі: і машынку, і танк, і ёлачку, і цацкі на ёлачцы.
– І наш падарунак пабіў?
– Не, ваш малаточак цэлы.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Дзе лепш жыць: у вёсцы ці ў горадзе?

**Мікалай Валынец, журналіст, Вілейка:**
– Канешне, у вёсцы! Цішыня, прыгажосць. Сам сабе гаспадар. Ні табе шумных суседзяў зверху, знізу і збоку. Ні табе праблем з паркоўкай.

**Воля Трубач, кіраўніца этнаграфічнага клуба "Кола", Маладзечна:**
– Лепш стала жыць у вёсцы, а працаваць у горадзе. Паколькі з працай на вёсцы не надта. Або мець вартую дыстанцыйную працу. Да таго ж у горад трэба будзе выязджаць за культурным і сацыяльным жыццём. Таму выдатна, калі вёска будзе знаходзіцца да 40 кіламетраў.

**Наталля Капуцкая, дырэктар арт-кавярні, Маладзечна:**
– У горадзе лепш. Вёска падабаецца мне як лецішча, адпачынак, кветкі, птушкі, рэлакс.

**Сяргей Квяткевіч, газаэлектразваршчык, Вілейка:**
– Мне Вілейка якраз тым і падабаецца, што гэта горад, але ёсць штосьці і ад вёскі: шмат прыватных дамоў. У людзей гаспадаркі, агароды. Жыць у вялікім горадзе – не для мяне.

**Яўген Скардзін, індывідуальны прадпрымальнік:**
– Я пражыў 20 год у вёсцы і 18 – у горадзе. Усюды ёсць свае плюсы і мінусы. Для мяне горад лепш. Тут ёсць магчымасць хадзіць у тэатры, на выставы, трэнінгі. Гэта знаёмства з новымі людзьмі, саморазвіццё. Мне блізкі рытм вялікага горада. А мінусы – экалогія і здаровае харчаванне.

**Алена Бабаева, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– Каму як. Мне жыццё ў горадзе падаецца больш зручным і практычным. У вёску люблю ездзіць летам.

**Вольга Макей, прадавачка, Вілейка:**
– Па мне ідэальна – у горадзе ў прыватным сектары. І ўсе гарадскія выгоды побач, і ўласны двор, і кветнікі.

Падрыхтавала **Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№45 (1176) 10.11.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1064 . Падпісана ў друк у 9.00 2.11.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.
Тэл.: (80176) 53-78-04 (рэклама, факс), 53-78-05 (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), 53-78-06 (журналісты), (8029) 573-28-47, 676-84-20. E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.